Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

ЦАНА НУМАРУ 20 ГРОШАЎ.

# НА РУБЯЖЫ

ДВУТЫДНЁВІК

№ 1 Год I

ВІЛЬНЯ, 5 КРАСАВІКА 1934 Г.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ ВУЛ. 40-18

Прыймо інтэрэсантаў у рэдакцыі штодзень ад 9 да 4 гадзіны

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц — 40 гр. у 3 месяцы — 1.20 „ у 1/2 года — 2.40 гр у 1 год — 4.50 „



## Ад рэдакцыі.

Апошнія гады палажылі свой цяжкі сьлед на становішчы працоўных масаў ўсей Польшчы, а яшчэ больш Заходняй Беларусі, якая жыве ў асабліва цяжкіх умовах.

Месяц за месяцам, крок за крокам зачыняюцца фабрыкі, тартакі, гуты, а тыя, якія яшчэ існуюць паступова зьмяншаюць сваю вытворчасьць. Усьлед за гэтым — масавае бязпрацоўе ў горадзе і вёсцы, пагаршэньне ўмоў жыцьця шырокіх масаў.

На вёсцы — узрост бяззямельля, галечы, голаду. Голад на Віленшчыне і Піншчыне з надыходам вясны стане агульнай зьяваю на Заходняй Беларусі. Ужо сёньня, ён сваею рукою пачынае грабастаць Наваградчыну. Пагалоўнае недаяданьня працоўнага сялянства, стала ў нас нармальным зьявішчам. „Ізноў пойдзе ў ход: крапіва, лебяда, балотныя травы і нават „ацот“ — так кажа селянін з вонкавым спакоем але з бурай у грудзёх.

Не „атмасфэрныя варункі“ віны ваты ў гэтым становішчы масаў, таксама, як не атмасфэрнымі варункамі можна вытлумачыць, тыя падзеі, якія апошнімі часамі адбываюцца па ўсім сьвеце — у Аўстрыі, Францыі, Гішпаніі, Кітаі і ў нас — у Польшчы. Усё гэта мае сваю падставу ў існуючай надломанай сыстэме, у тым, што сапраўдны вытворца — рабочы і селянін — пазбаўлены правоў карыстаньня вытворанымі ім-жа багацьцямі.

Пры такіх умовах, пры тым падпарадкаваным становішчы, якое займае Заходняя Беларусь, у нас больш чым дзе неабходны чоткі, здаровы пагляд на праявы штодзеннага жыцьця і палітычныя здарэньні — *пагляд з пункту гледжаньня інтарэсаў працоўных.*

Сёньня гэта больш важна чым калісь, бо ў адказ на наступ працоўных, на здэмаскаваньне прадажніцкім дзеяньняў беларускай буржуазіі і яе агэнтаў, узмацняюць сваю нктыўнасьць розныя „народа-апосталы“ у палітычных расах і чорных сутанах: Луцкевічы, кс. Станкевічы ды іншыя. Праз свае „Родныя Краі“, „Крыніцы“, „Беларусь Працы“, „Золакі“, яны стараюцца заблытаць сьвядомасьць масаў, асляпіць іх балбатнёй аб „адзінстве і непадзельнасьці беларускае нацыі, аб выхадзе з голаду і ўціску праз культурную працу“ шовіністычнымі лёзунгамі, як „Беларусь — беларусу“ і г. п. устрымаць працоўных Заходняй Беларусі ад салідарнай барацьбы з працоўнымі іншых нацыянальнасьцяў.

Гэтыя абставіны накрэсьліваюць тую вялічыню задач, якія стаяць перад нацыянальна-вызваленчым ворганам „На Рубяжы“ — ворганам, які павінен адбіваць думку і імкненьня масаў. Гэтыя задачы мы выпаўнім толькі тады, калі масы прыдуць нам з дапамогаю: матэр'яльна і маральна, бязупыннай прысылкай вестак і матэр'ялаў з усіх галін жыцьця масавым пашырэньнем *сваей* газэты.

Дык дружна да работы!

# ШТО КАЖА ЯКУБ КОЛАС

## аб рэформе беларускага правапісу

У гісторыі разьвіцьця і культуры мовы рэформа орфографіі становіць сабою дужа важную яе дату. Чым звычайна выклікаюцца такія рэформы? Як вядома, орфографія, або правапіс ёсьць пэўная ўмоўная норма, сыстэма граматычных правілаў, аснаваная на законах жывой мовы, для практычнага карыстаньня пісанай або літэратурнаю моваю ў межах таго ці іншага народу, нацыі з мэтаю наданьня яе літэратурнай мове характару агульна абавязкавых нормаў. Для чаго? Для практычнага грамадзкага карыстаньня ёю, як пэўнаю соцыяльнаю функцыяй, для таго, каб яна была зразумела для ўсіх дыялектаў, з якіх і складаецца мова.

З культурным ростам і разьвіцьцём самага народу расьце, разьвіваецца і ўзбагачваецца і яго мова, як з боку самой лексыкі, тэрміналёгіі, так і з боку новых разуменьняў і новых формаў іх выражэньня. Ясна, што пры такіх умовах моўныя нормы, правілы правапісу, становяцца цеснымі для жывой мовы, яна перарастае іх і настойліва патрабуе іх расшырэньня і ўвядзеньня новых прынцыпаў. Вось, у асноўным тыя мотывы, якія ставяць на чаргу дня пытаньне аб рэформе орфографіі наагул.

У дачыненьні да рэформы беларускага правапісу ёсьць некаторыя спэцыфічныя асаблівасьці. Спэцыфіка гэтых асаблівасьцяў ляжыць у пляне бурнага культурнага ўзросту працоўных масаў Савецкай Беларусі на аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі, на аснове агульнага патоку соцыялістычнага будаўніцтва, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і індустрыялізацыі краіны. Спэцыфіка гэта ляжыць у факце абвостранага клясавага змаганьня і ў наіўнасьці варожага, рэакцыйнага, контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму, разгромленага, але да канца ня зьнішчанага.

Беларуская мова была тым галоўным пляцдармам, тою баявой пазыцыяй з якой і вялі свае атакі нацыянал-дэмакраты супроць дыктатуры пралетарыяту, як у галіне гаспадарчага, так і ў галіне культурнага фронту, блёкуючыся пры гэтым з рознымі контррэвалюцыйнымі групоўкамі ўнутры Савецкай Беларусі і змыкаючыся таксама з прадстаўнікамі замежных контррэвалюцыянэраў-інтэрвэнтаў. Яны, гэтыя нацдэмы, гардліва ахоўвалі так званую „чыстату“ беларускай мовы. У пастанове СНК БССР аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу дадзена характэрыстыка гэтай нацдэмаўскай „чыстаты“ беларускай мовы.

„Нацыянал-дэмакратызм“, — гаворыцца ў пастанове, — „імкнучыся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літэратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных масаў, ствараў штучны бар'ер паміж беларускай і расейскай мовай і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі“.

Правільнасьць такой характэрыстыкі пацьвярджаецца тысячамі фактаў і дакумантаў, пакінутых нацдэмамі на сьметніку гісторыі. Аб гэтым сьведчыць нацдэмаўская літэратура, слоўнікі, граматыкі, „навуковыя досьледы“ з жыцьця сьвятых угоднікаў, анкеты, выпушчаныя спэцыяльна для зьбіраньня лексычнага матэр'ялу, і тыя агульныя ўстаноўкі, на якія арыентаваліся яны, гарлівыя ахоўнікі „чыстаты“ беларускай кулацка-шляхоцкай мовы, на якую жывое жыцьцё палажыла даўно пячаць тлені забыцьця і грамадзкай смерці.

Мёртвыя людзі, жывыя трупы, стоячы на пазыцыях зьмярканьня старога сьвету, воража паставіўшыся да дыктатуры пралетарыяту, імкнуліся ажывіць, падняць з труны мерцьвяка, сярэднявяковую мову і самабытнасьць, імкнуліся зрабіць гэта ў сваіх рэакцыйных і контррэвалюцыйных мэтах, ня хочучы зразумець гістарычнага працэсу, і кола гісторыі падхапіла іх і адкінула прэч, каб яны не заміналі яе прогрэсыўнаму руху.

Нацыянал-дэмакраты таксама займаліся пытаньнямі рэформы беларускага правапісу. Шмат проектаў гэтай рэформы засталося пасьля іх. Але ўсе яны гэтыя праекты, не выхадзілі з цеснай шкарлупіны нацдэмаўскай канцэпцыі і яшчэ больш заблытвалі правапіс, рабілі яго яшчэ больш рэакцыйным.

Я, таварышы, лічу, што няма асаблівай патрэбы расказваць вам тут гісторыю рэформы беларускага правапісу тым болей, **калі мы пісьменьнікі і ня ўсе, то пераважная большасьць нас, прымалі жывы ўдзел у абмеркаваньні праекту рэформы правапісу.**

Што, таварышы, характэрна ў рэформе беларускага правапісу? У чым яго асаблівасьці? Перш за ўсё і галоўным чынам у тым, што правапіс не адрываецца ад жывой сучаснай беларускай мовы, мовы калгаснага сялянства і рабочых масаў, ад яго жывога, натуральнага працэсу разьвіцьця.

Кожнаму не прадузятаму чалавеку, калі ён азнаёміцца з рэформаваным правапісам і параўняе яго з ранейшым, кінецца ў вочы сыстэмнасьць і вялікая спрошчанасьць рэформаванага правапісу. У гэтым сэньсе практычнае карыстаньне ім будзе нязьмерна лягчэйшым і прасьцейшым, чым гэта было ў старым правапісе. Новы правапіс рассек шараду ў дачыненьні да „не“ і „ня“, „без“ і „бяз“, унёс яснасьць і сыстэму ў пісьмо словаў іншамоўнага паходжаньня і шмат іншага. Але Савет Народных Камісараў БССР не зрабіў фэтышу з гэтага правапісу, не паставіў яго ў палажэньне сыстэмы ненарушанай. У сваей дырэктыве Наркамасьветы і Акадэміі Навук ён даў ясныя ўказаньні ў справе далейшага ўдасканаленьня беларускага правапісу, а гэта ёсьць гарантыя ў тым, што наш правапіс ня будзе адставаць і адрывацца ад жыцьця жывой мовы, і у меру патрэбы ў яго будуць уносіцца тыя ці іншыя папраўкі.

Робячы агульныя вывады аб рэфармаваным правапісе, мы павінны прызнаць палітычнае і навуковае ўгрунтаваньне яго, што гаворыць за прагрэсыўнасьць новага правапісу. **Практычна ён стаў лёгкім і простым, што дае мегчымасьць шпарчэй павышаць культурны ўзровень працоўных масаў.** І другі, таварышы, важны вывад, заключаецца ў тым, што правапіс у руках нацдэмаў, рэакцыйны па сваей прыродзе, зьяўляецца зброяй змаганьня супроць дыктатуры пралетарыяту, супроць навукі і прагрэсу, тады як правапіс у руках дыктатуры пралетарыяту ёсьць магутная зброя за культурны ўзрост працоўных масаў, за прагрэс, за сацыялістычнае будаўніцтва.

Адным з довадаў правільна праведзенай рэформы беларускага правапісу зьяўляецца той факт, што замежныя беларускія нацыянал-фашысты толку Станкевічаў, Луцкевічаў, Астроўскіх і інш. паслугачоў фашызму, самазвана выступаючы ад імя працоўных Заходняй Беларусі, гэтыя палітычныя спэкулянты і балаганныя кандыдаты ў беларускія міністры, паднялі шалёную кампанію супроць праведзенай рэформы беларускага правапісу.

Наш-жа, таварышы, грамадзкі абавязак — шырока выступіць перад грамадзкасьцю і вострым пяром пісьменьніка — грамадзяніна растлумачыць сэнс і значэньне рэформаванага правапісу працоўным масам і выкрыць усе махінацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

## Голад

З пастаўшчыны, Дзісны, Браслаўя
Ляціць праменісты зоў;
Галодная коціцца хваля
І душыць галодных бяз слоў.

Я чую, як плача матуля
Зірнуўшы на дзетак сваіх;
Кішыць, як ня кормлены вулей
Гнеў бліскае ў вочах жывых.

А сонца плыве і сьмяецца.
Сьмяюцца ў палацах — дзе пір,
Шампан, там Нёманам льецца,
Мільёны лятуць ў шчасьця вір.

Луцкевіч *ідзе* з „дапамогай“,
Ён піша — дзяржава „спяшыць“,
— *Сваею* ідзеця дарогай,
Дарогай *змаганьня*, каб жыць.

